# НЯХАЙ ЖЫВЕ 1 МАЯ!




# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 18 (792) ГОД XVI БЕЛАСТОК 2 МАЯ 1971 г. ЦАНА 60 гр.


## ШТО НАС ЧАКАЕ?

На гэта пытанне знаходзім абгрунтаваны адказ у праграме, якую прынялі ўдзельнікі красавіцкай ваяводскай справаздачна-выбарнай канферэнцыі Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў Беластоку.

«Галоўная наша мэта, — гаварыў на гэтай канферэнцыі намеснік старшыні Прэзідыума ВРН, тав. Ежы Зентара, — паляпшэнне жыццёвага ўзроўню ўсяго грамадства».

На Беласточчыне большая частка гэтага грамадства жыве ў вёсках. Дык сельскагаспадарчым праблемам ваяводскае кіраўніцтва адводзіць асаблівую ўвагу.

Ва ўмовах Беластоцкага ваяводства асноўным стымулам развіцця вясковай гаспадаркі ёсць і мае быць жывёлагадоўля, асабліва гадоўля кароў. Шырокія прасторы высокакультурнай пасучаснаму загаспадаранай сенажаці і ўсё растучая прадукцыя прамысловага корму ствараюць для яе развіцця неабходную базу. У мінулым годзе (нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы) сяляне Беласточчыны прадалі амаль 130 тон мяса і звыш 340 мільёнаў літраў малака. Дагэтуль яшчэ ніколі не ўдалося нашым хлебаробам даставіць дзяржаве такой колькасці жывёлагадоўчых прадуктаў. Быў гэта рэкорд.

Працяг на стар. 4




*Міхалай Мацеюк з Варшавы (II месца). Спяваў «Беласточчыну» і «Колькі ў небе зоёзд».*

*Фота Цаф — Сянько*

## РАБОЧЫЯ З ГАЙНАЎСКАЙ МЭБЛЕВАЙ

Прасторныя светлыя завадскія цэхі. Моцны, характэрны пах дрэва і яшчэ мацнейшы, безупынны грукат і свіст машын. Аж вушы баляць. Механічныя рукі, як смачную ежу, падаюць ад станка да станка, ад чалавека да чалавека, усё болей гладкія і болей бліскучыя элементы і часткі будучай мэблі. Так аж да зборачнага цэха, дзе вясенняе сонца зіхаціць рознымі колерамі тапчанавай абіўкі.

Не толькі тапчаны выпускае гайнаўская мэблевая фабрыка. Робяць тут шмат іншай мэблі. А ўся высокаякасная, бліскучая, цешыць вока сучасным камфартабельным афармленнем.

— Наша мэблевая фабрыка, — інфармуе дырэктар па тэхнічных справах Тадэвуш Рыгельскі, — самая навейшая ў краіне. Абсталявалі мы яе машынамі, якія ў галіне дрэваапрацоўчай прамысловасці з'яўляюцца бадай што апошнім словам тэхнікі.

Машыны аднак без чалавечай рукі працаваць не змогуць. Хто тады сваім розумам і воляй кіруе іх стальной душой? Загадчык кадравага аддзела Ян Пашкевіч інфармуе, што пад канец мінулага года, калі трэба было пусціць у ход гэтую мэблевую фабрыку, прынялі яны на працу звыш 700 новых рабочых. Многа сярод іх прыехала з вёсак Гайнаўскага павета і з іншых раёнаў краіны. Дырэктар мэблевай фабрыкі магістр інжынер Веслаў Філікс перасяліўся з Альштынскага ваяводства. Але вось магістр інжынер Леан Паўлоў-

Працяг на стар. 4



*Тут працуе Эльжбета Ромбель і Рамуальд Гаўрысік. Яны пакрываюць лакам мебельныя дэталі.*

## БГКТ ХРОНІКА

■ 9-га красавіка адбыўся ўрачысты пленум сакольскага аддзела, прысвечаны 15-ай гадавіне БГКТ на Сакольшчыне. З дакладам на гэтую тэму выступіў старшыня Галоўнага праўлення Міхась Хмялеўскі. Затым сакратар ГП Янка Зенюк, які з'яўляецца адначасова членам ваяводскага праўлення ТППР, уручыў залатыя адзнакі ТППР членам прэзідыума сакольскага аддзела Сцяпану Лукашуку і Аляксандру Казлоўскаму, а Міхась Хмялеўскі — дыпломы ГП дзеячам БГКТ гэтага павета.

У дыскусіі аб працы Беларускага таварыства ў павеце выступілі Яўген Чабан з Астроўка, Іван Аляксеюк з Гуран і Міхась Фідзюкевіч з Юраўлян. На пленуме прысутнічаў першы сакратар павятовага камітэта ПАРП у Саколцы Ян Дзенісюк, які таксама выступіў з прамовай і звярнуў увагу на істотныя праблемы БГКТ на Сакольшчыне. Сакратар ГП Янка Зенюк гаварыў аб заданнях гурткоў БГКТ на вёсках і аб формах іх працы.

У другой частцы пленарнага пасяджэння многа ўвагі было прысвечана арганізацыйным справам. У склад пленума быў уведзены Кастусь Моцька, а ў склад прэзідыума Іван Зеляневіч, Уладзімір Аніська, Аляксандр Пракопюк і Леанід Петрашкевіч. Пленум выбраў новага старшыню (дагэтуляшняга намесніка старшыні) — Сцяпана Лукашука, новага намесніка старшыні — Аляксандра Рафаловіча і новага сакратара — Марысю Юрылік.

У пленуме прынялі таксама ўдзел кіраўнік культурна-асветнага аддзела ГП Сяргей Лукашук і падінспектар асветы Сакольшчыны Вацлаў Філіповіч. Пленум вёў Аляксандр Рафаловіч.

■ За першы квартал 1971 года гайнаўскі аддзел БГКТ за членскія складчыны ў касу ГП здаў ужо 3500 зл., бельскі аддзел — 1298 зл., сямяціцкі — 1555 зл. і варшаўскі — 1550 зл. Гданьскі аддзел мае аплачаныя складчыны за першы квартал бягучага года амаль у 32% належнай сумы. Найгорш са складчынамі выглядае справа ў дуброўскім і беластоцкім аддзелах. (мс)

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі

 СВЕТ

## «МЕТЭОР», «САЛЮТ» І «САЮЗ-10»

17 красавіка г.г. у Савецкім Саюзе ажыццёулен запуск метэаралагічнага спадарожніка Зямлі «Метэор». Асноўнай задачай запуску спадарожніка з'яўляецца забеспячэнне атрымання метэаралагічнай інфармацыі, неабходнай для выкарыстання ў аператыўнай службе надвор'я.

У адпаведнасці з праграмай даследавання касмічнай прасторы 19 красавіка 1971 года тут жа зроблен запуск арбітальнай навуковай станцыі «Салют». Мэтай запуску станцыі з'яўляецца апрацоўка элементаў канструкцыі і бартавых сістэм, правядзенне навуковых даследаванняў і эксперыментаў у касмічным палёце.

У пятніцу 23.IV. г.г. у 0.54 гадзіны варшаўскага часу ў Савецкім Саюзе зроблен запуск касмічнага карабля «Саюз — 10». На борце карабля знаходзіўся экіпаж: камандзір — палкоўнік Уладзімір Шаталаў, бартавы — інжынер Аляксей Ялісееў і інжынер-даследчык — Мікалай Рукавішнікаў. Мэтай запуску «Саюза—10» з'яўляецца правядзенне эксперыменту з арбітальнай навуковай станцыяй «Салют», кантроль удасканаленай бартавой сістэмы карабля і інш.

Пасля выканання даверанага задання касманаўты шчасліва вярнуліся на Зямлю.

## ЗДЗІЎЛЕННЕ

У амерыканскім друку паявілася шэраг артыкулаў, у якіх каменціруюцца амерыкана-кітайскія кантакты ў апошні час. Газеты ўказваюць, што афіцыйны Вашынгтон здзіўлены і ўражаны хуткасцю, з якой развіваліся падзеі.

Цёплы прыём, аказаны амерыканцам, запрошаным у Кітай, і заўвагі Чжоу Энь-лая наконт «новай старонкі» ў адносінах паміж кітайскім і амерыканскім народамі, адзначае «Нью-Йорк таймс», «не могуць не быць крыніцай велізарнага задавальнення» для ўрада Ніксана.

Разам узятыя ўсе гэтыя факты з'яўляюцца першым значным водгукам Кітая на шэраг амерыканскіх прапаноў, пачынаючы з моманту прыходу да ўлады цяперашняга амерыканскага ўрада. Газеты сцвярджаюць, што гэта вялікае дасягненне ў знешняй палітыцы ўрада Ніксана, якое ён можа рэкламаваць у год выбараў.

## ЗАЯВА У ТАНА

На XXIV з'ездзе КПСС былі зроблены пазітыўныя і абнадзейваючыя заявы на карысць супрацоўніцтва, заявіў генеральны сакратар ААН У Тан, выступаючы ў Сан-Хасэ (Коста-Рыка).

У Тан заклікаў сканцэнтраваць намаганні не на рознагалоссях, а на тым, што аб'ядноўвае чалавецтва. Ён звярнуўся да вялікіх дзяржаў з заклікам шукаць вырашэння спрэчных пытанняў шляхам перагавораў і «пакласці пачатак пераходу ад проціборства і расколу да стварэння бяспечнага, надзейнага і трывалага міру».

Генеральны сакратар выказаўся за адмову ад метадаў «халоднай вайны» і назваў недаравальнымі велізарныя ваенныя расходы, якія працягваюцца.

(ак)

 БССР

## У ГОНАР ПОЛЬСКА-САВЕЦКАЙ ДРУЖБЫ

У Мінску 20 красавіка адбыўся вечар, прысвечаны 26-ай гадавіне Дагавору аб дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе паміж Савецкім Саюзам і Польскай Народнай Рэспублікай. Вечар адкрыў сакратар Мінскага абкома КПБ У. С. Багданаў. Прысутныя цёпла сустрэлі з'яўленне ў прэзідыуме вечара саветніка пасольства ПНР у СССР Аляксандра Возняка.

З дакладам аб 26-ай гадавіне Дагавору аб дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе паміж СССР і ПНР выступіў намеснік старшыні праўлення Беларускага аддзялення Таварыства савецка-польскай дружбы, акадэмік АН БССР І. С. Краўчанка. З вялікай увагай было выслухана выступленне саветніка пасольства ПНР у СССР Аляксандра Возняка.

Удзельнікі вечара прынялі прывітальную тэлеграму Галоўнаму праўленню Таварыства польска-савецкай дружбы.

За час знаходжання ў Мінску тав. Возняк азнаёміўся з выдатнымі мясцінамі горада, наведаў мемарыяльны комплекс Хатынь, нанёс візіт міністру замежных спраў БССР А. Е. Гурыновічу, меў гутаркі ў беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, быў прыняты сакратаром ЦК Беларусі Ф. А. Сурганавым.

## КУПАЛАЎСКІ СТЫПЕНДЫСТ

15 гадоў таму назад установлена была ў Беларусі Купалаўская стыпендыя. Яе мог атрымаць толькі адзін студэнт любой вышэйшай навучальнай установы.

У Гродзенскім педагагічным інстытуце стыпендыю імя Янкі Купалы атрымоўвае ўжо трэці год студэнт беларускага аддзялення філалагічнага факультэта Мікалай Рыхліцкі. Ён добра вучыцца і шмат працуе грамадска.

## ПРА ПОМНІКІ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ

У Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі Навук БССР завершана работа над першым томам «Зводу помнікаў гісторыі і культуры Беларусі». Ён прысвечаны Брэсцкай вобласці і адкрываецца нарысам аб легендарнай крэпасці — герою. Прадбачваецца выпусціць 7 тамоў гэтага «Зводу», якія раскажуць аб усіх абласцях рэспублікі і яе сталіцы — Мінску.

## ПІСЬМЕННІЦКІ З'ЕЗД

26 красавіка г.г. адбыўся ў Мінску чарговы шосты з'езд Саюза савецкіх пісьменнікаў Беларусі. Пра гэтую знамянальную падзею ў літаратурным руху БССР шырэй напішам праз тыдзень.

## ЗАВОД У ОРШЫ

На ўскраіне горада Орша пачалося будаўніцтва буйнейшага ў краіне інструментальнага завода. Разам з заводам вырасце новы гарадскі пасёлак, у якім апрача жылых карпусоў знойдуцца прафілакторыі, школа, дзіцячыя камбінаты і спартыўны комплекс.

## ЗА ВЫСОКІ ЎРАДЖАЙ

Хлебаробы саўгаса «Астраглыды» Брагінскага раёна абавязаліся ў першым годзе новай пяцігодкі атрымаць з кожнага з 1000 гектараў па 23 цэнтнеры збожжа.

(вр)

 ПОЛЬШЧА

## У ГДАНЬСКУ

Ад 19 да 20 красавіка адбывалася Ваяводская справаздачна-выбарная канферэнцыя ПАРП у Гданьску, якая закончыла справаздачна-выбарную кампанію ў партыі. На канферэнцыі выступіў І сакратар ЦК ПАРП Эдвард Герэк. Указаў ён, што сярод заданняў, якія ЦК паставіў перад партыяй, да найважнейшых, а адначасова да найцяжэйшых належыць неабходнасць увядзення ў жыццё ленінскіх метадаў працы і ўмацавання сувязі з масамі. Новай і асабліва каштоўнай рысай ваяводскіх канферэнцый быў шырэйшы. больш актыўны удзел у іх рабочых, якія ўнеслі аўтэнтычны настрой народных мас, ды памаглі вастрэй глянуць на шэраг спраў прадукцыі і грамадскага жыцця. Гаворачы аб снежаньскіх падзеях, Э. Герэк заявіў:

«Трагізм снежаньскіх падзей перш за ўсё ў тым, што быў гэта канфлікт паміж часткай людзей працы і іх уласнай, народнай уладай. Большасць удзельнікаў выступленняў кіравалася добрымі намерамі, не выступала супраць сацыялізма. Адначасова тыя, хто меў заданне навесці парадак, кіраваліся ахвярнасцю і дысцыплінай у адносінах да палітыкі партыі і народнай улады, кіраваліся думкай аб асноўных інтарэсах краіны. І таму быў гэта драматычны канфлікт пачуццяў, пастаў і матывацый».

## НАВУКА

Звыш 15 мільярдаў злотых прызначаецца ў гэтым годзе на далейшае развіццё навукі. Расходы на навуковыя доследы складаюць ужо больш 2 працэнтаў усяго нацыянальнага даходу. У 1975 годзе расходы гэтыя павысяцца да 2,5 працэнтаў і дасягнуць 25 мільярдаў злотых.

## НАРАДА

21 красавіка ў Цэнтральным Камітэце ПАРП адбылася нарада сельскагаспадарчых сакратароў ваяводскіх камітэтаў партыі, прысвечаная праблемам выканання апошніх рашэнняў Палітбюро ПАРП і Галоўнага камітэта ЗСЛь аб заданнях сельскай гаспадаркі ў 1971—1975 г.г., а таксама некаторым праблемам спажывецкай прамысловасці і скупкі мяса.

## ДНІ АСВЕТЫ

Дні асветы, кніжкі і друку пачнуцца ў гэтым годзе 9 мая — у гадавіну перамогі над фашызмам, а закончацца 30 мая, гэта значыць у традыцыйнае Народнае свята. Праграма Дзён асветы, кніжкі і друку ў гэтым годзе прадбачвае менш афіцыяльнасцей, чымсьці ў мінулых гадах. Не арганізаваны нават камітэт Дзён асветы, кніжкі і друку, што аднак не паменшыць ні багацця ўрачыстасцей, ні іх зместу.

## ВІЗІТ

Па запрашэнню міністра нацыянальнай абароны ген. Войцеха Ярузэльскага ад 23 да 24 красавіка прабывалі ў Польшчы галоўнакамандуючы і шэф штаба Аб'яднаных сіл дзяржаў — удзельнікаў Варшаўскага дагавору маршал Савецкага Саюза Іван Якубоўскі і генерал Арміі Сяргей Штыменка.

(п)

 ВАЯВОДСТВА

## САВЕЦКІЯ ГОСЦІ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

У сувязі з 26-ай гадавінай Дагавору аб дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе паміж Польшчай і Савецкім Саюзам на Беласточчыне пабывалі прадстаўнікі савецкага пасольства ў Польшчы Ігар Сцяпанаў і Генадзь Шапашнікаў. Госці пабывалі ў Кольне, Сакольцы, у Тыкаціне, у ПГР Ігнаткі, у Алецку, у Супраслі і Юхноўцы. Усюды там адбыліся сустрэчы з жыхарамі і моладдзю. Сустрэчы моладзі і жыхароў з савецкімі гасцьмі адбыліся таксама ў тэкстыльным тэхнікуме ў Беластоку і ў беластоцкім бровары.

З удзелам савецкіх гасцей адбыўся ў беластоцкім тэатры імя А. Вянгеркі ўрачысты вечар, прысвечаны 26-ай гадавіне падпісання Дагавору аб дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе. З дакладам аб усебаковым супрацоўніцтве паміж Польшчай і Савецкім Саюзам выступіў намеснік старшыні Прэзідыума ВРН Р. Лазаровіч. Выступіў таксама саветнік пасольства Ігар Сцяпанаў.

## КАНФЕРЭНЦЫІ САМАЎПРАЎЛЕННЯ

На шматлікіх прадпрыемствах і фабрыках Беласточчыны адбываюцца сходы рабочага самаўпраўлення, прысвечаныя вынікам працы на канец І квартала. Вялікая ўвага звяртаецца на павелічэнне прадукцыі для рынку і на экспарт, а таксама на далейшае паляпшэнне сацыяльных умоў для рабочых.

Такія канферэнцыі рабочага ўпраўлення адбыліся ўжо ў «Фастах», у «Мадро», у «Спомашы», на гуце шкла, на бровары, у тэкстыльшчыкаў фабрыкі імя Сяржана, на мэблевым прадпрыемстве і іншых.

## З'ЕЗД ЖЫЛЛЁВАЙ СПУЛДЗЕЛЬЧАСЦІ

У мінулую суботу адбыўся V з'езд дэлегатаў жыллёвай спулдзельчасці Беласточчыны. У прысутнасці прадстаўнікоў улад і шматлікіх палітычных і грамадскіх арганізацый дэлегаты ацэньвалі дагэтуляшнюю дзейнасць і намецілі праграму на бліжэйшыя гады. У мінулай пяцігодцы беластоцкія спулдзельцы атрымалі 10,5 тысяч памяшканняў, а ў гэтай пяцігодцы атрымаюць 17 тысяч.

## НА ПАСЯДЖЭННІ КАМІСІІ КУЛЬТУРЫ

На чарговым пасяджэнні камісіі культуры ВРН, дзе абмяркоўвалася выкананне плана і бюджэту на 1970 год. аказалася, што ў мінулым годзе не былі поўнасцю выкарыстаны фінансавыя сродкі, прызначаныя на развіццё культуры. Найгорш з гэтым было ў грамадах. Здаралася, што маладыя дзеячы культуры не заўсёды ведалі, якія сродкі могуць выкарыстаць, а бухгалтары грамадскіх рад, ставячы вышэй за ўсё ашчаднасць, не інфармавалі іх аб гэтым. На гэты год, як падкрэслівалася на пасяджэнні, прадугледжаны большыя фінансавыя сродкі, і іх трэба адпаведна выкарыстаць.

## АМБУЛАТОРЫЯ ШАФЁРАЎ — НАЙЛЕПШАЯ

Штогод у сувязі з Днём работнікаў службы здароўя Ваяводская камісія прафсаюзаў і аддзел здароўя Прэзідыума ВРН ацэньваюць працу прамысловых амбулаторый. Сёлета, вось ужо трэці раз першае месца заваявала амбулаторыя МПК і ПКС у Беластоку.

(яч)




**Niedziela 2.V.**

8.30 Program dnia. 8.35 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 9.00 Dla młodych widzów: TV Klub Śmiałych — „Pożar" — film („Bella i Sebastian"). 10.00 Wyścig kolarski o Puchar MON w Warszawie. 12.40 St. Moniuszko — „Halka" — opera (montaż telewizyjny). 14.40 „Przemiany". 15.10 Dla dzieci: „Świerzopas" — przeniesienie widowiska z Teatru Lalkowego w Lublinie. 16.10 „Nauka i Technika" — Olimpiada wiedzy o Polsce i świecie współczesnym. 17.00 „Cyrk w Karlinie" — program TV Czechosłowackiej. 18.05 „Spotkanie z Jerzym Połomskim". 18.45 „Dialogi historyczne". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Sierpniowa niedziela" — film fab. wł. 21.20 Magazyn sportowy. 22.10 „Bzy spaliła burza" — poezja rosyjska („Strofy Poezji Świata").

**Poniedziałek 3.V.**

15.20 i 22.35 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.25 „Echo stadionu". 17.55 „Virtuti Militari" — film dok. TVP. 18.30 Program estradowy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Scena Prozy: St. Żeromski — „Rafał Olbromski" (wg powieści „Popioły"). 21.45 „Gdy ruszą zamkowe zegary..." — rep. T. Kraśki. 22.15 Dziennik.

**Wtorek 4.V.**

9.25 „Pięciu z nieba" — film fab. radz. 10.55 Dla szkół: (kl. III lic.) Język polski — St. Witkiewicz — „W małym domku". 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Kontraktacja produkcji zwierzęcej". 15.20 i 22.40 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Ekran Młodych. 18.30 „Pieniawa Chopina" — film TVP. 18.45 „Wiraże motoryzacji". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Pięciu z nieba" — film fab. radz. 21.35 „Anda Calugarianu" — program rozrywkowo-muzyczny. 21.50 „Giełda" — rep. („Profile kultury"). 22.20 Dziennik.

**Środa 5.V.**

9.00 Dla szkół: (kl. VIII) Historia — „Pierwsze lata Polski Ludowej". 9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka — „Fale elektromagnetyczne". 10.30 „Krupp i Krause" — film fab. NRD (odc. ostatni). 12.45 „Wybieramy zawód". 15.20 i 22.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Aula" — sesja XXXIV. 17.10 Magazyn ITP. 17.25 „Następcy" — rep. 17.50 TV Kurier Warszawski. 18.00 Mecz piłki nożnej młodzieżowych reprezentacji Polski i Szwajcarii (II połowa). 18.45 Wszechnica TV: „Sztuka liczenia". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Krupp i Krause" — film fab. NRD (odc. ostatni). 21.10 „Światowid". 21.40 „Pieśni powstańcze". 22.10 PKF. 22.20 Dziennik.

**Czwartek 6.V.**

8.15 Matematyka w szkole: Elementy algebry liniowej (zajęcia fakultatywne). 9.00 Dla szkół: (kl. V) Historia — „Panowie i poddani". 9.55 Dla szkół: (kl. V) Język polski — „Spotkanie z pisarzem". 15.30 XXIV Wyścig Pokoju. I etap po ulicach Warszawy (112 km). 18.40 „Polska Pieśń Artystyczna" — Karol Szymanowski — cz. VII. 19.15 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Karlik Loska i inni" — film dok. TVP. 21.05 Kronika Wyścigu Pokoju. 21.25 „Przysięga" — film fab. czechosł. 22.15 „Alfabet rozrywki" — „Od H do H" (VIII). 23.00 Dziennik. 23.20 Politechnika TV I roku. Fizyka.

**Piątek 7.V.**

10.00 „Morderca zostawia ślad" — film fab. pol. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie plastyczne — „Plakat". 12.45 Dla szkół: (kl. I—III lic.) Przysposobienie obronne — „Drużyna sanitarna". 14.25 Fizyka dla nauczycieli: „Zasady dynamiki Newtona ze stanowiska układów odniesienia" cz. I. 14.55 i 23.20 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.00 Program dnia. 16.05 Dziennik. 16.20 XXIV Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia II etapu na trasie Warszawa — Włocławek (165 km). 17.20 „Nie tylko dla pań". 17.40 Magazyn Medyczny. 18.10 TV Kurier Warszawski. 18.30 W 50 rocznicę III Powstania Śląskiego. Apel Powstańczy — transmisja z Góry św. Anny. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Nowela filmowa. 20.30 „Kraj". 21.15 Kronika Wyścigu Pokoju. 21.35 „Morderca zostawia ślad" — film fab. pol. 23.00 Dziennik.

**Sobota 8.V.**

8.30 „Sobótki" — film fab. pol. 9.55 Dla szkół: Nauka o człowieku — „Sprawy 15-latków" (II). 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Geografia — „Zatoka Perska". 11.55 Dla szkół: (kl. VII( Zoologia — „Ssaki". 14.05 Program tygodnia. 14.25 „Oferty". 14.40 TV Kurs Rolniczy: „Chemiczna walka z chwastami". 15.15 Dziennik. 15.30 W 50-tą rocznicę III Powstania Śląskiego — transmisja z Katowic. 17.30 XXIV Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia III etapu na trasie Włocławek — Poznań (170 km). 18.30 „Spotkania z przyrodą". 18.55 Program filmowy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 „Będzie weselej" — Kabaret Jeremiego Przybory. 21.20 Dziennik. 21.40 Kronika Wyścigu Pokoju. 22.00 „Sobótki" — film fab. pol. 23.20 Śpiewa piosenkarz cygański Mikołaj Śliczenko.




**Piątek, 30 kwietnia**

8.05 Nowiny. 8.15 Koncert. 8.45 Reportaż z Wołgogradu. 9.15 TV film fab. 10.20 Nowiny. 13.35 Program dnia. 13.40 Dla uczniów. 14.50 Przyjaźń nie zna granic. 15.40 Panorama nowin. 16.05 Bajka dla dorosłych. 17.05 Wiersze K. Simonowa. Czyta autor. 17.30 Czekamy na talenty. 19.00 Czas. 19.30 Świąteczny wieczór w Ostankino. 21.15 Nowiny.

**Sobota, 1 maja**

7.45 Transmisja z Placu Czerwonego. 8.25 Pierwszomajowy pochód w Mińsku i koncert świąteczny. 11.30 Filmy animowane dla dzieci. 12.05 Szkatułka muzyczna. 12.20 Święto Wiosny. 12.45 Nowiny. 13.00 Filmy animowane. 13.30 TV film fab. 14.25 Koncert estradowy. 15.00 Klub filmowy. 16.00 Nowiny. 16.05 „Cyrk". Film fab. 17.45 Czas. 18.45 TV film fab. 20.00 Błękitny płomyk.

**Niedziela, 2 maja**

7.45 Kiosk muzyczny. 8.20 W świecie zwierząt. 9.15 Koncert. 10.15 Film TV z obchodów pierwszomajowych na Białorusi. 10.45 Koncert świąteczny. 13.30 Film animowany dla dzieci. 14.00 Piłka nożna. „Dynamo" (Moskwa) — „Spartak" (Moskwa). 15.45 Na Wołdze. 16.00 Nowiny. 16.05 TV film fab. 17.25 Spotkania muzyczne. 18.00 Czas. 18.30 TV teatr miniatur. 19.40 Koncert. 20.50 Nowiny. 21.00 Tańczcie z nami.

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 149

## Наш Каляндар

1 МАЯ — 90 ГОД З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ БЕЛАРУСКАГА ПАЭТА ЯНКІ ЖУРБЫ (1881—1964)

Беларускі паэт Янка Журба (Іван Якаўлевіч Івашын) нарадзіўся ў вёсцы Купніна Чашніцкага раёна Віцебскай вобласці ў сялянскай сям'і. Літаратурная дзейнасць яго пачалася ў 1909 годзе, калі ў газеце «Наша Ніва» быў надрукаваны першы верш «На беразе Дзвіны». У 1924 годзе выйшаў зборнік вершаў «Заранкі». Затым кнігі паэзіі: «Выбраныя творы» (1950), «Ясныя шляхі» і «Светлыя дні» (1959), зборнікі вершаў для дзяцей «Ластаўкі» (1950), «Сонечная раніца» (1955).

Я. Журба напісаў шмат добрых вершаў аб прыродзе, аб прыгажосці беларускіх краявідаў, характве нашых лясоў і рэк. Адзін з іх змяшчаем ніжэй.

## РАБІНА

*Між вячыстых лясоў у даліне*
*Разраслася красуня-рабіна,*
*Аздаблялася кветкамі гожа,*
*Красавалася міла, прыгожа.*

*А як птушкі у вырай ляцелі,*
*На ёй ягадаў гронкі паспелі.*
*Тут карміліся птушкі-паюшкі,*
*І ляцелі далей весялушкі.*

*Зашумела сялзлівая восень, —*
*І закрылася хмарамі просінь.*
*Стала сумна і жудасна ў полі:*
*Над ім вецер сярдзіта скуголіў.*

*І сваволны і злючы быў вецер,*
*Гнуў без жалю рабіны той вецце.*
*Сумавала рабіна ў няволі*
*І губляла ўсё лісцейка з голля.*

*Вось набегла зіма-халадуха,*
*Загудзелі ў палях завірухі,*
*І жыццё прыпынілася ў дрэве,*
*Бо ўжо сонца рабіну не грэе.*

*За зімою адвечнай чаргою,*
*Несучы кветкі й радасць з сабою,*
*Прыляцела вясна-чараўніца,*
*Напаіла вадою крыніцы.*

*Лісцем зноў зашумела рабіна,*
*Ўжо прыбраліся ў кветкі галіны.*
*І рабіне зноў радасна стала,*
*Што жыццё і акрасу прыбрала.*



* * *

Хацеў бы кветкі
пасадзіць на дынаміце
на сілу ўзросту
замяніць выбух
і на ціск сокаў
што вясною кружаць
у жывучых клетках
каб цвілі як макі
пурпурам
як ружы
і белым колерам
нявіннасці дзявочай
і васількамі ў жыце
як дзіцячыя
жывыя вочы.

Л. ТАНКЕВІЧ

АЛЕСЬ БАРСКІ

* * *

Пушча апранула нас лісцём
малінай накарміла і суніцай
а птушкі напаілі песняй
і дуб зачараваў былінай
ляжым у гамаку даліны
ад бесклапоцця ап'янелы
усё усе для нас
а мы з табою для кахання

* * *

*трава па пояс нам*
*мы пушчы да каленяў*
*лес небу да сукенкі*
*у кожнага свой рост*
*у кожнага свой лёс*
*і мабыць трэба так*
*каб хтосьці быў большы*
*і хтосьці меншы*
*закон натуры справядлівы*
*ніхто закону не абыдзе*
*і толькі мы зрабілі гэта*
*нам ружы зацвілі з каленяў*
*так моцна выраслі ў шчасці*
*што мора стала па калені.*

* * *

Ты як зямля
з табой шчасце і клопаты
любіш уласнасць
без яе не квітнееш



і таму ва ўладанне
бяру тваё цела
і не баюся мянушкі «уласнік»
цяжарнасць і плод усё апраўдаюць.

* * *

*Іду ў каханне без агляднкі*
*перасцярог я не баюся*
*ці ж варта сэрца паіць страхам*
*пры ўваходзе ў святыню*
*а нават каб было турмою*
*у ёй ахвотна зачынюся.*

* * *

У табе ёсць святло
што вабіць мяне як маяк
вандроўцаў у моры
і пашырае багаты свет
і душу адкрывае насцеж
і ў лесе грудзей запаляе агні
калі адыходзіш у даль
аддаляецца пушча і луг
і сонца паважна гасне
у табе ёсць святло
ад яго пачынаю квітнець
як згасне завяну.

У апошні час наша рэдакцыя наладзіла сувязь з серба-лужыцкімі літаратарамі, пражываючымі на тэрыторыі Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы. Сёння друкуем верш аднаго з вядомых лужыцкіх паэтаў Кіты Лорэнца. Кіта Лорэнц — паэт новага пакалення. Яго дзед быў прадстаўніком сербскага рамантызму. Нялёгкі лёс напаткаў бацькоў Кіты — у часы гітлерызму лужыцкая мова была сурова забаронена. Кіта Лорэнц, які нарадзіўся ў 1939 годзе, упершыню пачуў сваю родную мову пасля вайны, калі на тартак, дзе працаваў яго бацька, прыехалі вясковыя людзі з лужыцкіх ваколіц. Палюбіў ён сваю мову і ганарыцца ёю. Закончыў серба-лужыцкі ліцэй, а пасля факультэт сваёй мовы ў Лейпцыгскім універсітэце.

КІТА ЛОРЭНЦ

## СЛОВА

Слова, як арэх,
слова, як жалезны арэх
паміж зубамі,
як глыбокая, бяздонная студня
маўчання.

Была, кажуць,
шоўкавая мова, ясная,
як маладая скура — юфта ды саф'ян.
Былі гаворкі,
быццам дзіцячыя гульні ў пяску.
І вечары іскрыстыя бывалі
з тысячамі шматзначных позіркаў,
і начныя казкі, дыхаючыя макавым
цветам,
перад гэтым.

Хрыбет мой сярпом,
павуцінне на твары,
толькі чую: лісцё ападае,
ды гук па вадзе
ад яго манатонны.



На ёй пішу я,
на сваёй мове,
а вакол раўнадушша
у пустынных гарах ілжы.
Рабі, аднак, дрэва з попелу,
не зламай толькі сэрца гуслям.
Затапі сваю хату святлом месяца,
толькі сабак на яго не нацкоўвай.

Вось скачуць жабы рухлівыя
па пожні.
Будзяцца ракі са сну.
Не задрыжаць аднак
сэрцы каменняў,
калі ў цемры павісне
над імі сякера.

Так ціха, спакойна,
калі шуміць зімой завіруха.
Тады цячэ
ў маіх жылах вада.
Зямля, дай вады са сваіх крыніц,
каб набрыняў зморшчаны арэх,
як ты, зямля,
ў веснавое разводдзе.

Зямля, як слова,
загорнутае ў шурпатыя лупінкі
мазгавых паўшарый,
і з тым дарагім смакам арэха,
які ніколі
не забудзеш.

*Пераклад з серба-лужыцкай мовы*

*А. Чэчуга і Я. Чэрнякевіч.*

*З. СТАСЬКЕВІЧ*

## ● ХВІЛІНА СПАКОЮ ●

*Сасновы бор — казка гадоў маіх дзяцінных,*
*Сасновы бор — мая духоўная краса,*
*Сасновы бор — ты мне спяваеш пра радзіму,*
*Сасновы бор — ты ліра вечнага жыцця.*

*Я так люблю праслухаць пошум твой дзівосны,*
*Як анямелая ўсе гоманы лаўлю...*
*Здаецца рукі працягаюць свае сосны*
*І штосьці шэпчуць... дзесьці ўсё завуць...*

*Завуць у свет спакою, дабраволі,*
*Завуць у свет палёгкі, бестурбот,*
*Туды, дзе думкі выпусціш на волю*
*Абняўшы зрокам рай палян, раку, чарот.*

*Іду, іду, іду, не чую стомы,*
*Расце атрада у грудзях маіх...*
*І бор расце, расце, расце,*
*І сцеле гоман*
*У воблаках скудлачаных, сівых.*



## ВАЙНА

Ідзе праз свет
праз час
разрывае зямлю
і неба
сэрца налівае панікай
калі надыходзіць
моўкнуць птушкі
і людзі
і гасне сонца
ідзе непераможная
і вечная
хаця
магло б яе не быць
трэба толькі
ўбачыць
як зацвітае ясьмін
пачуць водар
нагрэтай сонцам травы
і бзычэнне пчол
трэба толькі
убачыць нявінны сон
дзіцяці
і трэба ўмець кахаць.
Ці ж так трудна быць
— чалавекам?

КАСТУСЬ БАНДАРУК



Пачатак на стар. 1

# ШТО НАС ЧАКАЕ?

Ён абнадзейвае і адначасова заклапочвае. Не можна ж пашыраць жывёлагадоўлю пад голым небам. Патрэбны будынкі. І не такія, якія будавалі нашы дзеды-прадзеды і якіх яшчэ найбольш цяпер на сялянскіх сялібах, бо ў вёсках Беласточчыны ўсё яшчэ каля 50 працэнтаў сялянскіх будынкаў знаходзіцца пад саламянымі стрэхамі. Каб гаспадарыць па-сучаснаму, патрэбны будынкі з бягучай вадой, светлыя, з электраабсталяваннем для нарыхтоўкі корму і г.д. Архітэктары і будаўнікі з Ваяводскай рады нядаўна яшчэ раз дакладна праглянулі і ацанілі камплект тыповых праектаў для патрэб сельскагаспадарчага будаўніцтва. Цяпер у кожным павеце можна ўжо атрымаць гэтыя праекты. Вясковаму гандлю даставляюцца ў распараджэнне пабольшаныя прыдзелы будаўляных матэрыялаў. Адначасова ўлады разлічваюць на тое, што самі сяляне змогуць рабіць на ўласныя патрэбы пустакі і чарапіцу.

У Беластоцкім ваяводстве зямля знаходзіцца ў руках звыш 180 тысяч гаспадароў. Гэта іх уласнасць. Ніхто таму не пярэчыць. Аднак трэба памятаць, што ўсе разам аднаасобныя гаспадаркі складаюць агульнанацыянальнае дабро, што зямля мусіць даваць плён, што нельга нам абыякава адносіцца да неахайнага яе выкарыстання. У прыватнасці, датычыць гэта і дзяржаўнага фонду зямлі. «У галіне гаспадаркі зямлёю, — гаварыў на канферэнцыі тав. Зентара, — апрацавалі мы падрабязныя і канкрэтныя планы загаспадарання дзяржаўнага фонду зямлі і пакінутых гаспадарак. (...) Там, дзе толькі ёсць магчымасць, каб стварыць асобныя комплексы зямлі і перадаць іх ва ўладанне дзяржаўным або спулдзельчым сялянскім гаспадаркам, ужо цяпер гэтае робім і будзем рабіць надалей. Такім чынам, узнікнуць новыя ПГР-ы ў паветах Беластоцкім, Бельскім, Сакольскім і Сувальскім».

Спулдзельні і ПГР-ы не змогуць аднак прыняць цэлай зямлі, якая ўсё яшчэ застаецца без гаспадарчай рукі. Таму ўлады заахвочваюць сельскагаспадарчыя гурткі, каб яны ў шырэйшых маштабах супольнымі сіламі загаспадарвалі дзяржаўны фонд зямлі. Ахвотна таксама будуць прадаваць гэтую зямлю аднаасобным гаспадарам.

Праз год сярэдні ўраджай у Беластоцкім ваяводстве павінен наблізіцца да 20-ці цэнтнераў з гектара. У гэтай галіне партыйная праграма прадбачвае павелічэнне плошчы пасеваў пшаніцы і ячменю. Гэтыя сельскагаспадарчыя культуры ва ўмовах Беласточчыны даюць лепшы прыбытак і, як паказаў вопыт, яны болей устойлівыя на капрызы прыроды.

Сяляне, зразумела, не жывуць на недаступным возеры. Поспехі ў іх працы залежаць таксама ад спраўнай дзейнасці сельскагаспадарчых устаноў. А вось яшчэ часта гаспадары наракаюць, што каб здаць збожжа, трэба чакаць у чарзе, каб купіць штосьці — таксама, каб прадаць жывёлу — трэба хітрасці, а часам і хабару. Гэта ўсё разам, бы пясок у шасцярнях машыны, тармазіць паспяховы ход сельскай гаспадаркі ў Беластоцкім ваяводстве. Яго можна ачысціць супольным дзеяннем. Асабліва шмат зрабіць тут могуць партыйныя, маладзёжныя і грамадскія арганізацыі.

Ёсць аднак справы, якія непасрэдна не залежаць ад жыхароў вёскі. Беластоцкі мясакамбінат, для прыкладу, перапрацоўвае ледзь палавіну ўсёй жывой масы, якую дастаўляюць сяляне Беласточчыны. Перавоз жывёлы на іншыя мясныя фабрыкі каштуе дзяржаве амаль 80 мільёнаў злотых у год. Адносіцца гэта не толькі да мясной сыравіны. Гэтыя затраты цяпер будуць абмежаваны. Ужо зацверджаны план пабудовы мясакамбіната ў Элку і надалей будзе будавацца сучасная цукроўня ў Лапах. У 1972 годзе вялікую малачарню атрымаюць Лапы, а пазней крыху — Сэйны.

Зразумела, гэта толькі некаторыя справы і праблемы з абшырнай партыйнай праграмы, якая ўсебакова адлюстроўвае нашы здабычы і патрэбы ва ўсіх галінах гаспадарчага і грамадскага жыцця. Шмат чаго новага і карыснага прадбачваецца, для прыкладу, дзеля разбудовы прамысловасці ваяводства. Між іншым, плануецца пабудова прадпрыемства па вытворчасці хімічнай апаратуры і фабрыкі тэлевізараў у Беластоку, прадпрыемства будаўлянай сталяркі ў Саколцы, другой цагельні ў Ляўкове, керамічнага прадпрыемства ў Орлі, аддзела па вытворчасці стружкавых пліт у Гайнаўцы. Адначасова многія старыя фабрыкі будуць паддавацца грунтоўнаму аднаўленню.

А ўсё гэта менавіта дзеля таго, каб нам лепш жылося. Дык чакае нас праца, крапатлівая і адказная — праца, якая дзень заўтрашні зробіць прыгажэйшым.

*В. Рудчык*

Пачатак на стар. 1

## РАБОЧЫЯ З ГАЙНАЎСКАЙ МЭБЛЕВАЙ



*Уладзімір Снарскі абслугоўвае імпартную шліфіровачную машыну, якая каштуе каля 900 тысяч злотых. Такі дарагі станок можна было даверыць толькі вопытнаму рабочаму.*

скі, які тут з'яўляецца кіраўніком мантажнага цэха, нарадзіўся ў вёсцы Шастакова. Яго дарога да кіраўнічай пасады праходзіла праз Белавежскі лясны тэхнікум, а пасля праз Галоўную школу вясковай гаспадаркі ў Варшаве.

— Што мне, не наракаю, — адказвае на маё пытанне, як яму жывецца. — Яшчэ ў час навукі камбінат даваў мне стыпендыю. Цяпер маю добрую работу. Нядаўна атрымаў ад прадпрыемства памяшканне ў новапабудаваным «блёку»

Падобны шлях прайшоў таксама магістр інжынер Ян Піскур, бацькі якога жывуць амаль у сэрцы Белавежскай пушчы, у пасёлку Тапіла. Працуе ён загадчыкам лакавага цэха.

У зборачным цэху сустракаю братоў Міхаіла і Рыгора Раманюкоў. Абодва вясковыя столяры. Гэтая прафесія ў іх ужо сямейная — з дзеда-прадзеда.

— Хадзілі мы па вёсках, хаты ставілі, рабілі сталярку, — гавораць. — Аднак тут лепш.

Мэблевая фабрыка працуе на дзве змены. У год дае прадукцыю, вартасць якой ацэньваецца на звыш 200 мільёнаў злотых. На аднаго рабочага прыпадае ў сярэднім 360 тысяч злотых гэтай прадукцыі. Гэта высокая прадукцыйнасць працы (сярэдняя ў краіне прыблізна на 150 тысяч злотых меншая).

Не адной прадукцыяй, вядома, жыве чалавек. Побач з прасторнымі завадскімі цэхамі рабочыя маюць тут добра абсталяваныя пакоі бытавога характару. На месцы кіёск з прадуктамі. Рабочыя маюць завадскі Дом культуры і ўласную амбулаторыю.

Новы, малады фабрычны калектыў набірае вопыту. У дрэваапрацоўчай прамысловасці ён вельмі патрэбны.

*В. Рудчык*
*Фота Цаф-Сянько*



*Механічныя пілы рыхтуюць элементы будучых элегантных тапчаноў. Абслугоўвае іх Станіслаў Соха.*

## § Кансультацыя юрыста

### ПЕНСІЯ ДЛЯ СЕЛЯНІНА, ЯКІ МАЕ ДАЎГІ ПЕРАД ДЗЯРЖАВАЙ.

Велічыня пенсіі залежыць, між іншым, ад колькасці «пералічаных» гектараў, аддадзеных дзяржаве. Калі гаспадар мае нясплачаныя падаткі, колькасць зямлі ў «пералічаных» гектарах зніжаецца на такую частку, вартасць якой адпавядае суме даўгоў у адносінах да дзяржавы.

Калі пасля такога зніжэння застаецца менш, чым 2,5 га «пералічаных», то пенсія для селяніна прыслугоўвае толькі ў тым выпадку, калі не мае ён блізкіх асоб, якія абавязаны ўтрымліваць яго. Звычайна гэткімі асобамі з'яўляюцца муж або жонка, дзеці, браты і сёстры. Значыць, калі б пасля адлічэння часткі гаспадаркі за доўг заставалася менш 2,5 га, селянін мог бы атрымаць пенсію толькі тады, калі б не меў нікога з блізкіх сваякоў, абавязаных да аліментацыі, або тыя сваякі самі знаходзіліся ў такім становішчы, што не маглі б даць яму на ўтрыманне.

Калі б пасля гэткага адлічэння засталося 2,5 — 3 га, селянін атрымае 500 зл. пенсіі, ад 3—4 га — 600 зл. і ад 4—5 га — 700 зл.

Нармальная, поўная пенсія — гэта ад 800 да 1200 зл.

## Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

# ГЕНЕЗІС НАЗВЫ БЕЛАРУСЬ

На XIV ст. прыпадае пачатак крышталізацыі беларускай народнасці. Заходнія землі Кіеўскай Русі канчаткова адарваліся ад асноўнай тэрыторыі старарускай дзяржавы і на іх пачала складацца беларуская нацыя. Гэта ў сваю чаргу стварыла грунт да заснавання самастойнай літаратуры і культуры. Здавалася б, што такім чынам былі створаны ўмовы да крышталізацыі беларускай нацыянальнай свядомасці і незалежнай дзяржаўнасці. Гістарычныя лёсы беларускай зямлі былі паддадзены аднак неспрыяючым выпрабаванням. Беларуская нацыя ў перыяд свайго фарміравання прайшла праз рад перыпетый, якія не спрыялі заснаванню самастойных форм дзяржаўнага і нацыянальнага быту. Зрэшты, гэтай праблемай займаюцца ў асноўным гісторыкі, літаратуразнаўцы ў гэтай галіне не надта кампетэнтныя. І таму абмяжуемся тут толькі характарыстыкай некалькіх навуковых гіпотэз, якія тлумачаць паходжанне назвы «Беларусь». Трэба агаварыцца, што ўсе гэтыя гіпотэзы канчаткова не высняюць паходжання назвы нашага народа. Нягледзячы на гэта, варта некаторыя з канцэпцый тут прадставіць. Затрымаемся пры трох з гэтых гіпотэз.

Першая тэорыя мае антрапалагічны характар, другая характар этнаграфічны, трэцяя — палітычны.

Антрапалагічная тэорыя звязвае паходжанне слова «Беларусь» з пэўнымі рысамі цела нашых продкаў. Паводле прыхільнікаў гэтай канцэпцыі жыхары, насяляючыя землі сучаснай Беларусі, былі наогул бландзінамі, мелі яны белы колер твару і светлыя або русыя валасы. З гэтай прычыны нашыя продкі былі названы беларусамі, а зямля, на якой яны жылі, Беларуссю.

Другая тэорыя мае характар этнаграфічны. Выводзіць яна назву «Беларусь» ад вопраткі, у якую апраналіся нашы продкі. Згодна з гэтай тэорыяй, даўнія жыхары Беларусі найахвотней апраналіся ў доўгія кашулі і світкі светлага, белага колеру. Гэтая прывязанасць да белі была прычынай назвы краіны і нацыянальнасці.

Трэцяя тэорыя звязвае паходжанне назвы «Беларусь» з палітычнымі падзеямі. У XIII стагоддзі вялікая частка зямель Кіеўскай Русі была занята татарамі. На працягу пэўнага перыяду землі сучаснай Беларусі знаходзіліся па-за татарскім ігам. У сувязі з тым, што ў сярэдневякоўі слова «белы» было адназначным са словам «свабодны», землям, вольным ад татарскага нашэсця, была дадзена назва «Беларусь».

Якая з гэтых тэорый праўдзівая, а якія тэорыі фікцыйныя? Адказ досыць цяжкі. Справа ў тым, што ва ўсіх прадстаўленых гіпотэзах выступае выразная наяўнасць элементаў выдумкі, фікцыі, легенды. Зрэшты, цяжкасці выступаюць толькі пры спробе высвятлення першай часткі слова «Беларусь». Пры другой частцы, па сутнасці, няма ніякіх сумненняў. Таму што «русь» звязана, несумненна, з Кіеўскай Руссю. Трэба аднак адзначыць, што вучоныя нязгодныя таксама ў справе паходжання назвы «Русь». Адны з іх выводзяць гэтую назву ад скандынаваў, другія сцвярджаюць, што «Русь» — гэта слова мясцовага паходжання.

Вернемся аднак да Беларусі. Новая назва краіны пачала паяўляцца ўжо ў XIV ст. Спачатку паявілася ў нямецкай літаратуры, пасля пачалі ёю карыстацца прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей. З цягам часу новая назва ўвайшла ў гутарковую мову беларусаў. Трэба аднак памятаць, што даволі доўгі час побач з назвай «Беларусь» выступала і назва «Русь». Адносілася гэта не толькі да вучоных замежнага паходжання, але і да саміх жыхароў Беларусі. Напрыклад, выдатны прадстаўнік беларускай культуры пачатку XVI ст. Францішак Скарына называў сябе рускім, а сваю мову рускай мовай. У такой схільнасці нашых продкаў праяўлялася сіла традыцыі Кіеўскай Русі.

Апрача гэтых дзвюх назваў для Беларусі і нашага народа, існуе яшчэ трэцяя — «Літва». Звязана яна з тым фактам, што ў XIV—XVII ст. Беларусь уваходзіла ў склад Вялікага княства Літоўскага. Напрыклад, Адам Міцкевіч ужываў вельмі часта назву «Літва», маючы на ўвазе Беларусь. Аб вітальнасці гэтай назвы можа сведчыць тое, што нават сёння некаторыя групіроўкі беларускай эміграцыі ўжываюць тэрмін «Літва» на акрэсленне Беларусі. Зразумела, што такая тэндэнцыя ў другой палове XX ст. пазбаўлена найменшага рацыяналізму.

Канчаючы, яшчэ раз прыгадаем, што ў XIV стагоддзі заходнія акраіны Кіеўскай Русі канчаткова адарваліся ад рэшты зямель і што на іх грунце склалася беларуская народнасць. Аб літаратуры гэтай народнасці будзем гаварыць у наступных гутарках.

# СПРАВЫ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ШКОЛЬНІЦТВА НА ГАЙНАЎШЧЫНЕ

5 красавіка г.г. у Доме настаўніка ў Гайнаўцы адбылася канферэнцыя настаўнікаў пачатковых школ з беларускай мовай навучання. Першы выступіў кіраўнік секцыі беларускай мовы Акруговага метадычнага цэнтра ў Беластоку мгр Васіль Сакоўскі з дакладам «Становішча нацыянальнага школьніцтва на Беласточчыне і ў Гайнаўскім павеце». Мгр Васіль Сакоўскі закрануў у сваім дакладзе многа важных спраў, якія датычаць навучання беларускай мовы ўвогуле. Найбольш увагі прысвяціў ён навучанню беларускай мовы на Гайнаўшчыне, дзе існуе найбольш школ з беларускай мовай навучання. На Гайнаўшчыне існуюць зараз 64 школы, у якіх беларуская мова навучаецца як прадмет, і 5 школ з беларускай мовай навучання. Вучыцца ў іх 5185 школьнікаў. На працягу двух апошніх гадоў значна павялічылася матэрыяльная база пачатковага школьніцтва з беларускай мовай навучання. Школьныя бібліятэкі ўзбагаціліся новымі беларускімі кніжкамі. У апошні час выйшлі з друку новыя, больш цесна звязаныя з сённяшнім духам часу, падручнікі для старэйшых класаў пачатковай школы. Выдаюцца новыя падручнікі для класаў I—IV. Прыемна нам адзначыць пры тым і той факт, што «Ніва» і дадатак для дзяцей «Зорка», а таксама беларускія календары з'яўляюцца неабходнымі дапаможнікамі ў навучанні роднай мовы. Дарэчы, аб матэрыялах, якія друкуюцца ў «Ніве» і ў «Зорцы», усе настаўнікі адклікаліся добра.

У апошнія гады павялічылася колькасць настаўнікаў, падрыхтаваных да навучання беларускай мовы. І так, зараз на Гайнаўшчыне беларускую мову выкладаюць 22 выпускнікі Настаўніцкай студыі з аддзяленнем беларускай мовы, 30 выпускнікоў педліцэяў з беларускай мовай навучання і 27 выпускнікоў агульнаадукацыйных ліцэяў з беларускай мовай навучання. Робяць яны ўсё, што магчыма, дзеля таго, каб гэты прадмет выкладаўся не горш, чым іншыя прадметы. Збіраюць яны і перахоўваюць цікавыя публікацыі і матэрыялы, самі робяць неабходныя дапаможнікі для навучання беларускай мовы, арганізуюць гурткі, напрыклад, любіцеляў беларускай мовы, а таксама вучнёўскія мастацкія калектывы. Толькі за I паўгоддзе навучальнага года 1970/71 арганізавана ў Гайнаўскім павеце 13 кабінетаў беларускай мовы. А варта дадаць, што арганізацыя іх не заўсёды магчымая перш за ўсё з-за школьнай цеснаты.

З другой тэмай «Аналіз вынікаў навучання за I паўгоддзе школьнага года 1970/71 у школах з беларускай мовай навучання ў Гайнаўскім павеце» выступіў намеснік інспектара аддзела асветы ў Гайнаўцы Сяргей Бароўскі. Даў ён станоўчую і грунтоўную ацэнку рэалізацыі праграмы навучання беларускай мовы ў гайнаўскіх школах. Звярнуў ён таксама ўвагу на шэраг адмоўных фактаў і прыкладаў, з-за якіх пакуль што нялёгка даводзіцца настаўнікам вучыць беларускай мове. Перш на перш, адмоўнай з'явай з'яўляецца перагружаная праграма навучання, а таксама тое, што часта настаўніку даводзіцца спалучаць на адным уроку беларускай мовы аж тры класы. І што дзіўна, такое становішча абгрунтавана адпаведнымі дырэктывамі найвышэйшых школьных улад. Адмоўнай рысай у працэсе навучання беларускай мовы з'яўляецца і тое, што загадчыкі школ часта прыдзяляюць весці ўрокі беларускай мовы тым настаўнікам, якія найменш падрыхтаваныя ў гэтым напрамку. Многія настаўнікі беларускай мовы ахвотна паглыблялі б свае веды завочна, але, на жаль, няма яшчэ такога аддзялення. Не найлепш маецца справа з навучаннем роднай гісторыі. Дагэтуль пакуль што няма па гэтаму прадмету адпаведнага падручніка.

Пасля настаўнікі дзяліліся сваімі заўвагамі, а таксама поспехамі ў штодзённай працы. Было шмат пытанняў.

У канферэнцыі прымаў удзел сакратар ГП БГКТ Янка Зенюк. У сваім выступленні сакратар ГП высока ацаніў працу настаўнікаў беларускай мовы ў вядзенні мастацкіх калектываў, хораў, драмгурткоў, а таксама працу ў гуртках БГКТ, якія перш за ўсё дзейнічаюць на вёсцы. Далей тав. Зенюк даваў адказы на шэраг заўваг і пытанняў. На заканчэнне канферэнцыі з тэмай «Апрацоўка лірычнага твора на ўроку беларускай мовы» выступіла кіраўнік павятовага метадычнага цэнтра беларускай мовы Ольга Гарустовіч і з тэмай «Арганізацыя кабінетаў і метадычных куткоў беларускай мовы ў школе» выступіла настаўніца з Трасцянкі Галена Тапалянская.

*Янка Цялушэцкі*

# Вясеннія весткі з двух грамад

Грамада Заблудаў, Беластоцкага павета, налічвае 1004 гаспадаркі, з якіх жыве каля чатырох тысяч чалавек. Сяляне ў бягучым сельскагаспадарчым годзе поўнасцю выканалі план кантрактацыі збожжавых культур, а таксама поўнасцю заправілі пасяўное зерне, якім абсеяна 2679 гектараў зямельных угоддзяў. План мінеральных угнаенняў выкананы ў 98 працэнтах. Найлепш праявілі сябе ў гэтым сяляне з Кухароўкі, Ляшак, калёній Заблудава і Сольнікаў. Гэта Станіслаў Самсановіч з калёніі Заблудаў, Аляксей Андрэйчук і Мікалай Тадарчук з Алексіч, Антон Андрэйчук з Гнецюкоў, Браніслаў Кандрацкі з Кухароўкі, Расціслаў Івановіч з Сесек, Пётр Рагуцкі з Ляшак і іншыя.

Амаль штогод сяляне Заблудаўскай грамады абменьваюць пасяўное зерне і бульбу на насенне. У бягучым сельскагаспадарчым годзе абменена 155,5 тон жыта, 90 тон бульбы і 8 тон ячменю. Пасеяна значна больш ячменю. У параўнанні з мінулым годам пасяўная плошча ячменю павялічылася на 146 гектараў.

На тэрыторыі Заблудаўскай грамады найбольшыя ўраджаі збіраюць сяляне з Гнецюкоў, калёніі Заблудаў і Кухароўкі.

Для таго, каб належна карыстацца мінеральнымі ўгнаеннямі і прымяняць сучасныя агратэхнічныя прыёмы, неабходнай з'яўляецца пастаянная сельскагаспадарчая адукацыя сялян. З гэтай мэтай адбыліся ў мінулым годзе сельскагаспадарчыя курсы ў Пратасах, Кухароўцы, Сеськах і Пасынках. У бягучым годзе будуць павышаць свае сельскагаспадарчыя веды сяляне з Кудрычаў, Жукоў, Ахрымавічаў, Сольнікаў, Гнецюкоў і Астраўкоў. Апрача сельскагаспадарчых курсаў, у Заблудаўскай грамадзе праводзяць конкурсы па гадоўлі кароў, цялят і парасят, доследы над прымяненнем высокіх порцый мінеральных угнаенняў пад жыта, а таксама параванне бульбы.

У Міхалоўскай грамадзе план мінеральных угнаенняў выкананы ў 86,2 працэнтах. Найлепш выканалі свае пастаўкі мінеральных угнаенняў сяляне з Герасімава (у 103%), з Майдана (у 88 ), з Капцоў (у 87%) і з Леўшаў (у 86%). Найбольш мінеральных угнаенняў закупілі сяляне: Янка Серада з Новай Волі — 913 кілаграмаў NPK у чыстым складзе (высявае ён 102 кілаграмы NPK у чыстым складзе на 1 гектар зямельных угоддзяў), Янка Радзевіч з Майдана — 2565 кілаграмаў NPK у чыстым складзе (высявае ён 197 кілаграмаў NPK у чыстым складзе на 1 га) і Янка Трусевіч з Казімірава — 1332 кілаграмы NPK у чыстым складзе (высявае 100 кілаграмаў NPK у чыстым складзе на 1 га). Сяляне, якія не мелі чым сеяць атрымалі ад дзяржавы 6 тон зерня ячменю. План кантрактацыі збожжавых культур у колькасці 350 га выкананы поўнасцю. Найлепш выканалі яго сяляне з Казімірова, Пянькоў, Масціскаў і Такароўшчыны. Амаль поўнасцю запраўлена пасяўное зерне. Абменена 104,6 тон зерня жыта і 850 тон бульбы. Пасяўная плошча ячменю павялічылася да 100 га, а пшаніцы да 120 гектараў, калі ў мінулым годзе ячменем было засеяна толькі 68 га зямельных угоддзяў, а пшаніцай — 49 гектараў.

Жыхары вёскі Капцы і Пянькі займаюцца кантрактацыяй такіх высокааплачваемых раслін, як ракіта, лубін і сырадэля. У апошні час закантрактавалі яны 30 га ракіты. У першым квартале г.г. на агульнавясковых сходах жыхары Міхалоўскай грамады прынялі абавязацельствы праграмы звышпланава выгадаваць 281 свінню і 162 цялят. Селянін Янка Цыванюк з Пянькоў абавязаўся дадаткова выгадаваць 9 свіней і 3 цялят, Мікалай Ярмолік таксама з Пянькоў — 6 цялят, Вацлаў Грыка з Леўшаў — 10 свіней і 3 цялят, Аляксандр Грэсь з Пянькоў — 5 цялят і адну лёшку, Яўгень Грыка з Азяблаў — 5 свіней і 2 цялят, Уладыслаў Кананчук з Кабылянкі — 3 цялят і 2 свіней і г.д.

*Янка Цялушэцкі*

*Адрэс па лініі, назначанай пункцірам, зрабі дзіркі ў месцы, вызначаным кружкамі і нажніцы старонкі на дроцікі або шнурочак.*



## ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ

# БЕЛАРУСКАЯ НАФТА

Калісь лічылі, што недры Беларусі бедныя карыснымі выкапнямі — торф, гліна, пяскі — вось і ўсё. Савецкія геолагі значна пашырылі гэты пералік. У рэспубліцы адкрыты буйнейшыя ў Еўропе залежы сільвініта. Разведаны значныя месцанараджэнні нафты, жалезнай руды, вугалю, каменнай солі.

Беларуская ССР становіцца адным з буйнейшых пастаўшчыкаў нафты і прадуктаў яе перапрацоўкі. Па апошніх даных геолагаў, запасы нафты ў рэспубліцы ацэньваюцца сотнямі мільёнаў тон.

Да ўжо вядомых месцанараджэнняў — Рэчыцкага, Асташкавіцкага, Цішкаўскага, Давідкаўскага разведчыкі недраў выявілі яшчэ 70 структур, дзе магчымае скапленне значных запасаў нафты і газу.

Нафтаздабыча — наймаладзейшая галіна прамысловасці рэспублікі. Яе біяграфія пачалася ў 1966 г. У першым годзе здабыта ўсяго 208 тысяч тон беларускай нафты. План 1970 года прадбачваў 4,3 мільёна тон.

(Матэрыял дасланы з Мінска. фота В. Казлова)



*Мантаж чарговай вышкі.*



*Паблізу гор. Рэчыцы Гомельскай вобласці ў кастрычніку 1964 года адкрыта першая прамысловая нафта Беларусі.*



*Бурэнне шчыліны.*



*Буравая вышка на Рэчыцкім месцанараджэнні нафты. Змена майстра Уладзіміра Аляксеева.*

Ч. АМОРТ

ЗА КУЛІСАМІ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

# Тайна агента А-54

ПА СЛЕДУ АГЕНТА А—54

Нягледзячы на тое, што пошукі Франты не мелі поспеху, яго дзейнасць праходзіла ў вельмі цяжкіх умовах. Аб гэтым было паведамлена ў Лондан па перадатчыку Барташа. Просьба аб дапамозе была адрасавана чэхаславацкаму міністэрству абароны:

«Ён просіць паведаміць, куды яму звярнуцца ў выпадку вымушаных уцёкаў за граніцу. Ён можа ўцячы ў Швейцарыю ці ў Турцыю, паколькі там знаходзіцца «Мары». Каб не пацярпела яго сям'я, неабходна будзе інсцэніраваць насільны ўвод. Акрамя «Мары», ніхто не выклікае давер'я, там у нізе завёўся здраднік... Рэне гатовы трымацца да апошняй магчымасці. Ён уцячэ толькі тады, калі гэта будзе вельмі патрэбна».

«Мары» быў псеўданім падпалкоўніка Фрыцэка, які раней узначальваў разведвальную групу чэшскага Супраціўлення ў Бялградзе. Пасля акупацыі Югаславіі ён перабраўся ў Стамбул, дзе стаў афіцэрам сувязі разведвальных органаў саюзнікаў. Яго становішча ў Турцыі было, аднак, незайздросным, бо нямецкая шпіёнская служба, на якую працавала некалькі здраднікаў-чэхаў, яго выявіла. Таму ў радыёграме і было ўказана: «Там завёўся здраднік...»

У гэты час пачаўся вялікі скандал, які хоць і прынёс нямала клопатаў нацыстам, у той жа час быў непрыемны і для Франты. А адбылося вось што. Агенты абвера ў Стамбуле прадаліся англічанам. З прычыны таго, што Турцыя ўваходзіла ў сферу ўплыву пражскага аддзялення абвера, работа яго супрацоўнікаў падверглася праверцы і расследаванню. У сувязі з гэтым былі арыштаваны тры ўпаўнаважаныя абвера, якія лічыліся гандлёвымі прадстаўнікамі фірмы «Манаполь». Гэта пражская фірма з'яўлялася шырмай, за якой дзейнічала шпіёнскае бюро, што мела сваіх прадстаўнікоў ва ўсіх еўрапейскіх краінах. Сюды таксама сцякаліся гітлераўскія агенты з усёй Еўропы.

У ходзе допытаў арыштаваных было названа імя кіраўніка пражскага аддзялення абвера — Пауля Цюмеля, якога ведалі ў Празе пад імёнамі Хольма і доктара Штэйнберга. Гэта быў не хто іншы, як агент А-54, або Франта, Рэне, Ева.

13 кастрычніка 1941 года Цюмеля ў першы раз арыштавалі. Яму ў той жа час наладзілі вочную стаўку з палкоўнікам Хуравы. Апошні заявіў, што ён гэтага чалавека не ведае. Аднак гестапавец Абендшэн, які вёў гэту справу, западозрыў, што тут штосьці нячыста.

Цюмель энергічна пратэставаў супраць свайго арышту. Ён быў старым членам нацысцкай партыі, уладальнікам залатога ганаровага партыйнага значка, відным супрацоўнікам абвера. Высокія інстанцыі нацысцкай партыі хадайнічалі за Цюмеля. З прычыны таго, што ніякага канкрэтнага абвінаваўчага матэрыялу гестапаўцам сабраць не ўдалося, у лістападзе 1941 года Цюмеля выпусцілі на свабоду. І ён зноў працягваў свае супрацоўніцтва з Маравекам.

Аднак арышт гэты не прайшоў бясследна. За Цюмелем пачалі сачыць. І не толькі таму, што ён быў кіруючым ваенным спецыялістам нямецкай службы шпіянажу, а хутчэй за ўсё ў сувязі з тым, што становішча, якое складалася ў Празе, выклікала глыбокія рознагалоссі паміж віднымі супрацоўнікамі мясцовага аддзялення гестапа — Абендшэнам і Флейшэрам. Яны і раней ненавідзелі адзін аднаго, а цяпер іх саперніцтва яшчэ больш узрасло. Флейшэр, які кіраваў пошукамі Маравека, быў старым сябрам Цюмеля і заўсёды быў гатовы паручыцца за яго. А Абендшэн абвінавачваў Флейшэра ў тым, што ён неаб'ектыўны і расказвае Цюмелю службовыя сакрэты, дзякуючы чаму Маравеку зноў і зноў удаецца схавацца ад пагоні.

*(Працяг будзе)*

# ТРЫБУНА чытачоў

## ХТО ДАПАМОЖА БАБУЛІ?

У нашай вёсцы Кнышэвічы (Сакольшчына) ў старэнькай, разваленай хатцы жыве бабуля. Ёй ужо каля 70 год. Яна яшчэ намагаецца гаспадарыць, але, на жаль, дыспетчар нашага сельгасгуртка не хоча даваць ёй машын. Баіцца, што старэча не заплаціць. Дык яна плачам выпрасіць у трактарыстаў; каб зааралі той ці іншы кусочак зямлі.

Гэтай старой, адзінокай жанчынай не толькі ніхто не цікавіцца, але знаходзяцца нават такія, хто асьмельваецца над ёю здзеквацца. У верасні мінулага года ноччу нехта залез у яе хату і ўкраў грошы. Яна старалася злодзея выгнаць, але што слабая бабуля можа зрабіць здаравяку-злодзею? Паплакала бабуля, і на гэтым скончылася. Ёй неабходная дапамога. Павінны зацікавіцца ёю нашы мясцовыя ўлады і арганізацыі.

*М. Л., Кнышэвічы*

## ПАТРЭБНЫ РОЎ

«Маю гаспадарку, якая складаецца з 7 га зямлі, у тым ліку 2 га сенажаці. Якраз на мае сенакосы сцякае вада з навакольных палёў. Сена я выношу з вады. Каб асушыць сенажаць, неабходна зрабіць 150 метраў меліярацыйнага рову. Самому выкапаць мне не падсілу. Прашу рэдакцыю «Нівы» дапамагчы асушыць сенажаць».

*Іван Анішчук, Максімоўшчына (каля Ласінкі)*

Паважаны Іван Анішчук! Рэдакцыя ні ў чым дапамагчы не можа. Неабходна вам за дапамогай звярнуцца ў аддзел сельскай гаспадаркі павятовай рады нарадовай у Гайнаўцы.

*Рэдакцыя*

## ПАРЦАЎСКІ ГУРТОК ЗМВ

У бягучым годзе гурток Саюза сялянскай моладзі (ЗМВ) у Парцаве стаў значна актыўнейшы, чым у мінулых гадах. Асабліва з'ядналася моладзь, калі гурток пачаў арганізаваць танцавальныя вечарыны і прыступіў да арганізавання харавога калектыву. Парцаўская моладзь мае свайго музыканта Івана Буркевіча, які заўсёды ахвотна іграе на забавах і дапамагае хору.

Удалую вечарыну гурток арганізаваў 19 студзеня. Моладзь падрыхтавала п'есу «Конская кніжка», а пасля была дахадовая забава. Падчас забавы быў арганізаваны конкурс на найлепшых танцораў. Першае месца заняла Геня Куптэль, якая вельмі прыгожа танцавала з хлопцам з вёскі Пілікі.

*Вера Ахрымюк, Бельск Падляшскі*

## ЗА ГАСПАДАРНАСЦЬ

У Шудзялава (Сакольскі павет) прыязджаюць сяляне па мінеральныя ўгнаенні. Патасовую соль і суперфасфат бяруць з капцоў. Угнаенні часта бываюць мокрыя. Людзі незадаволены. Яны ж бачаць, колькі кожны год выдаецца грошай на капцаванне мінеральных угнаенняў. На адзін капец трэба 8 ролек папы, а яшчэ ж аплаціць людзей за капцаванне. А на пляцы магазінаў ляжаць і гніюць ужо 5 гадоў будаўляныя матэрыялы.

Чаму ж ГС не пабудуе яшчэ аднаго магазіна?

Дакуль будзе такая негаспадарнасць? Сяляне з раёна Шудзялава кажуць таксама, што ў Шядзялаве або Слоўцы неабходна чышчальня насення. Каб ачысціць канюшыну, лён ці сарадэлю, дык трэба ехаць у Саколку або Крынкі. А ў Крынках чышчальня часта псуецца.

*А. С., Сакольскі павет*

## АКРАБАТКА

Валя Стэфанюк з Дубін яшчэ ў пачатковай школе праяўляла вялікія балетныя і акрабатычныя здольнасці. Калі ў вясковым клубе адбываюцца нейкія ўрачыстасці з мастацкай самадзейнасцю, яна выступае з паказам сваіх акрабатычных нумараў, якімі захапляюцца ўсе прысутныя. Зараз Валя вучыцца ў беларускім агульнаадукацыйным ліцэі ў Гайнаўцы.

*Фота Віктар Бура*

## ЗАХІЛІЎШЫСЯ ЗА КРАМУ

На Беласточчыне пабудавана шмат крам на вёсках. У іх прадаюцца розныя матэрыялы і харчовыя прадукты. На вёску прывозяць многа піва. А ўжо на піва нейкае лакомства пануе амаль ва ўсіх вёсках. Пры крамах заўсёды збіраецца шмат людзей. Людзі маюць фізіялагічныя патрэбы. Але, на жаль, пры крамах не будуюцца ўборныя. І вынікі такія, што многія захіляюцца за сваёю патрэбай за гэты будынак і паліваюць яго, асабліва тады, калі прывезена шмат піва. ПЗГС-ы, будуючы вясковыя крамы, павінны звярнуць увагу на будову пры крамах санітарных абсталяванняў.

*Мікола Краўчук, Патока*

## УПРЫГОЖВАЕ ВЁСКУ

Такую школу, як ў Сяміхочах (Сямяціцкі павет), не заўсёды спаткаеш і ў нашых мястэчках. Мае яна прасторныя класы і калідоры, вялікае фае і глядзельную залу з прыгожай сцэнай. Ёсць тут паравое ацяпленне. Па-суседску са школай пабудаваны дом, які прызначаны для адной настаўніцкай сям'і. (Шкада, што не большы ён, што ў ім няма памяшкання для ўсіх настаўнікаў). У школе кідаецца ў вочы вялікая колькасць кветак. Заслуга ў гэтым перш за ўсё кіраўніка школы Тадэвуша Ваўжыняка. Варта адзначыць і тое, што школа прыгожа абгароджана, і кавалак пляцу ля школы вылажаны бетоннымі плітамі. Школа ў Сяміхочах упрыгожвае вёску. (М. М.)

## ГРН НЕ ДАПАМАГАЕ

Моладзь вёскі Грэдалі грамадскім чынам праводзіць рамонт святліцы. Ужо навазілі жвіру, закуплены дошкі. У многіх справах вымушаны яны звяртацца да прэзідыума ГРН у Грыгароўцах, але, на жаль, няма адтуль належнай дапамогі. Хутчэй яе можна знайсці ў павятовым праўленні ЗМВ у Бельску Падляшскім.

*Іван Ігнацюк, Грэдалі*

## Сардэчныя тайны

*Дарагое Сэрцайка!*

Ёсць у мяне старэйшы брат. Нядаўна брат пазнаёміў мяне са сваім сябрам, які паходзіць з недалёкай вёскі. Пеця пачаў штораз часцей прыязджаць да нас. Ён ужо па войску і, як кажа брат, збіраецца жаніцца, хоча знайсці толькі дзяўчыну. Здаецца мне, што я спадабалася Пецю. Гэтае можна пазнаць ужо па позірку. Брат хваліць Пецю, кажа, што гэта добры хлапец. Найважнейшае, што не п'е гарэлкі. Праўда, вып'е кілішак, калі ўжо сапраўды мусіць, калі ў кампаніі. Такіх жа хлопцаў на вёсцы нямнога. Мне спадабаўся Пеця, хацела б з ім сябраваць. Але вось адна рэч у яго паводзінах мне не падабаецца. Пеця курыць папяросы. Гэта, вядома, не трагедыя. Але вось дрэннае тое, што Пеця час ад часу плюе на падлогу, або на зямлю, у залежнасці ад таго, дзе знаходзіцца. Аднойчы пайшлі мы ў нашу святліцу, і мне за гэта было сорамна. Што рабіць, як яму аб гэтым сказаць? Парай, Сэрцайка. Буду табе ўдзячна.

*Зося з Гайнаўшчыны*

*Зося!* Сапраўды гэта брыдкая прывычка. На жаль, гэта часта здараецца ў вясковых хлопцаў (і не толькі ў вясковых). Разумею цябе, што такая, здаецца, дробная рэч адпіхае дзяўчыну ад хлопца. Сапраўды, дзяўчаты (асабліва нарачоныя) часта павінны вучыць хлопцаў, як кажуць, штодзённай культуры. Калі б больш звярталі яны такім хлопцам увагі, думаю, што памагло б. Таму вось і ты, Зося, павінна звярнуць (далікатна) на гэта ўвагу. Калі вы шчырыя між сабою, дык проста скажы яму, што так не выпадае. Зразумела, хай выглядае гэта па-сяброўску, а не дакорліва. Калі ж вы яшчэ не на такой ступені сяброўства, пастарайся звярнуць увагу, напрыклад, калі гэтае самае зробіць іншы хлапец. Тады ты можаш сказаць, што некаторыя хлопцы не вядуць сябе, як належыць, маюць брыдкія прывычкі, не ведаючы, мабыць, што гэта нікому не падабаецца. Для каханай асобы можна зрабіць усё, можна нават пазбыцца дрэнных прывычак.

*Сэрцайка*

## КЛЕЙНІЦКАЯ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЯ ШКОЛА

Адна з чатырох сельскагаспадарчых школ у Гайнаўскім павеце знаходзіцца ў вёсцы Клейнікі. У вясковым асяроддзі была гэта спачатку вялікая навасць. Асабліва здзіўляліся сяляне, калі штораз часцей пачалі спатыкацца з доказамі, што каб добра гаспадарыць, трэба закончыць спецыяльную школу.

Сельскагаспадарчая школа ў Клейніках адкрыта была ў 1961 годзе. Спачатку цяжка было з кваліфікаванымі настаўніцкімі кадрамі. Не многа было таксама жадаючых вучыцца ў гэтым напрамку. Заняткі ў першым перыядзе адбываліся вечарам. Дзякуючы аднак клопатам і намаганням былога кіраўніка школы Эдварда Лясоты, які нястомна пераконваў сялян у неабходнасці пашырэння сельскагаспадарчых ведаў, усё змянілася. Навучэнцаў значна пабольшылася. У апошнія гады не было цяжкасцей і з выкладчыкамі. У мінулым годзе школа гэта атрымала правы засаднічай сельскагаспадарчай школы. Галоўнае яе заданне — даць як найбольш кваліфікаваных людзей, якія будуць працаваць на ўласнай гаспадарцы або ў ПГР-ах. Выпускнікі гэтай школы могуць паступаць у сельскагаспадарчыя тэхнікумы і эканамічныя тэхнікумы.

Праграма навучання ў клейніцкай сельскагаспадарчай школе ўсебаковая. Апрача тэарэтычных ведаў, адбываюцца практычныя заняткі на доследных палетках. Пасля двух год вучобы навучэнцы летам выязджаюць на практыку ў ПГР-ы. Хлопцы маюць таксама магчымасць закончыць тут курс трактарыстаў, а дзяўчаты раз у тыдзень маюць цікавыя заняткі па дамашняй гаспадарцы. Школа мае дзве класапрацоўні — аграбіялагічную і механізацыі. Тыя, хто даязджае або мае цяжкія матэрыяльныя ўмовы, атрымоўваюць стыпендыю.

Выпускнікі гэтай школы, якія працуюць на гаспадарцы, сталі перадавымі гаспадарамі. Да іх, між іншым, належыць Іван Кабац, Уладзімір Антыповіч і іншыя. Клейніцкі аграном Мікалай Асіпюк таксама выпускнік гэтай школы.

Зараз дырэктарам засаднічай сельскагаспадарчай школы з'яўляецца Мікалай Міхалюк — былы выпускнік беларускага агульнаадукацыйнага ліцэя ў Гайнаўцы. Апрача прафесіянальнай працы, шмат часу прысвячае ён працы грамадскай. Ён актывіст і БГКТ, і ЗМВ-у, ды выконвае функцыю сакратара грамадскага камітэта ПАРП.

*Тэкст і фота Віктар Бура, Гайнаўка*

*Дырэктар засаднічай сельскагаспадарчай школы.*

## ЗАТРЫМАЎСЯ ГАДЗІННІК

У Бельску Падляшскім пабудавана многа жылых дамоў і памяшканняў для розных устаноў. Час ідзе наперад, і ўсё змяняецца. Толькі на вежы старыннай ратушы з чатырох бакоў відаць, што час затрымаўся. Там стаяць усе чатыры вялікія гадзіннікі, і не адзін чалавек спужаецца, што спазніўся на ПКС. Як доўга гадзіннік гэты будзе ашукваць людзей?

*Лёня Леанюк, Плёскі*

## МЕНШ КАРОЎ

У грамадзе Мілейчыцы, што ў Сямяціцкім павеце, значна паменшылася колькасць кароў. Ёсць у гаспадароў жаданне павялічыць жывёлагадоўлю, але тут выступаюць своеасаблівыя цяжкасці. Ветэрынарная служба прапагуе штучнае асемяненне кароў. Але, на жаль, яно ў гэтай мясцовасці не здало экзамена. А сяляне не гадуюць быкоў, і ўсё гэта прычынілася да змяншэння колькасці быдла.

Даўней у кожнай вёсцы было па некалькі быкоў. Цяпер чамусьці іх не гадуюць.

*(С. С.)*

## АЛІМПІЯДА ВЕДАЎ

3-га красавіка ў клубе селяніна ў Свіслачанах адбыліся элімінацыі сельскагаспадарчых ведаў пад лозунгам «Сельскагаспадарчая кніжка — найлепшы дарадчык у гаспадарцы». Найлепш адказвалі на пытанні Чэслаў Бяляўскі, Ніна Макасей і Вера Пугач. Гэтыя асобы будуць рэпрэзентаваць грамаду Зубкі на павятовых элімінацыях алімпіяды ў Беластоку.

*Рыгор Лісавец, Скраблякі*

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**КЛЯШЧЭЛІ**

„Czarny mustang" (USA), 4—5. „Listek figowy" (węgierski), 6—7. „Nieśmiertelni Flip i Flap" (USA), 8—9.

**НАРАЎКА**

„Siedemnasty równoleżnik" (franc.), „Uzurpatorzy" (węgierski), 5—9.

**НАРВА**

„Westerplatte" (polski), „Wyspa na lądzie" (węgierski), 5—9.

**ЧЫЖЫ**

„Lecą żurawie" (radz.), „Pokój przychodzącemu na świat" (radz.), 5—9.

**ДУБІЧЫ ЦАРКОЎНЫЯ**

„Szkice warszawskie" (polski), „Sól ziemi czarnej" (polski), 5—9.

**АРЭШКАВА**

„Dwaj panowie bez parasola" (rumuński), „Rozbójnicy sycylijscy" (włoski), 5—9.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**БОЦЬКІ**

„Jak rozpętałem II wojnę światową" (polski), „Wkrótce nadejdzie wiosna" (radz.), 8—9.

**ОРЛЯ**

„Banda Asa Kier" (radz.), „Mąż swojej żony" (polski), 5—9.

**РАЙСК**

„Trzy godziny miłości" (jugosłowiański), „Lenin — karty życiorysu" (radz.), 5—9.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**МІХАЛОВА**

„Lenin — fakty i wspomnienia" (radz.), 4—5. „Panowie z kompleksami" (włoski), 6—7. „Hrabina Cosel" (polski), 8—9.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**КРЫНКІ**

„W poszukiwaniu wczorajszej miłości" (węgierski), 4—5. „Jeśli dziś wtorek to jesteśmy w Belgii" (angl.), 6—7. „Nieśmiertelni Flip i Flap" (USA), 8—9.

**ЯНАЎ**

„Faraon" (polski). 5—9.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**НУРЭЦ**

„Po wielkiej burzy" (szwedzki), 4—5. „Zabawy w muzeum" (węgierski), 6—7. „Ucieczka w kajdanach" (USA), 8—9.

**МЕЛЬНІК**

„Życie raz jeszcze" (polski), 4—5. „Dr Fabrizus działa" (NRD), 6—7. „Prom" (polski), 8—9.

**МІЛЕЙЧЫЦЫ**

„Ściana czarownic" (polski), 4—5. „Pippi" (szwedzki), 6—7. „Lucia" (kubański), 8—9.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**СУХАВОЛЯ**

„Abel twój brat" (polski), „Wątła nić" (USA), 5—9.

**НОВЫ ДВОР**

„Wkrótce nadejdzie wiosna" (radz.), „Żyrafa w oknie" (czeski), 5—9.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 7254 E-3

# ● МАРАФОН ●

Я ўляцеў у кнігарню, як вецер.

— Кажуць, у вас з'явіся дасканалы дэтэктыў «Цень пад носам». Спецыяльна адпрасіўся на хвілінку з работы, каб купіць. Вы яшчэ не прадалі?

— Гэта ў суседнім аддзеле. Пачакайце прадаўшчыцу. Яна на хвілінку выйшла, каб купіць «фары» — цёмныя акуляры ў залатой аправе, іх толькі што завезлі ў магазін «Оптыка».

— «Фары» ў золаце? Ого! Мне яны патрэбны назарэз! — крыкнуў я і пабег у «Оптыку».

— Прашу тры пары акуляраў. Правае шкло мінус адзін, левае...

— Я касір, я не прадаю.

— А хто ж прадае?

— Прадаўшчыца. Яна на хвілінку выйшла ў «Дэлікатэсы». Туды прывезлі каўбасу «Салямі».

— «Салямі»? Дык гэта ж мая страсць! Лячу, можа, яшчэ дастану...

У «Дэлікатэсах» чарга не рухалася.

— Прадаўшчыца на хвіліну выйшла ў камісійны магазін, — праінфармавала мяне пажылая жанчына. — Там з'явіліся нейкія італьянскія кашулі.

— Кашулі? Спатрэбяцца для падарка. Лячу! Мабыць, яшчэ...

Я ўварваўся ў камісійны магазін, бы ураган.

— Ёсць яшчэ кашулі?

— Засталіся на кантролі, спытайце ў старшага прадаўшчыка, калі ён прыдзе.

— А дзе ён?

— На мінуту вышаў у кнігарню. Там выкінулі нейкі каласальны дэтэктыў «Цень пад носам». Не чыталі?

*З. Вікторчык.*

## У ТЭАТРЫ

Вядомы пісьменнік, наведаўшы аднойчы тэатр, па запрашэнню дырэктара адправіўся за кулісы, дзе яму была прадстаўлена ўся трупа тэатра. Калі госцю прадставілі суфлёра, ён доўга ціснуў яму руку, а потым сказаў:

— З вамі мне асабліва прыемна пазнаёміцца. Бачыце, я звычайна купляю білеты ў першы рад партэра, і таму ўсе класічныя п'есы — Шылера, Мальера, Шэкспіра, карацей, усё найлепшае я слухаю непасрэдна з вашых вуснаў.

## ВЕДАЕ

— Татка, ці ведаеш, што святло распаўсюджваецца з хуткасцю трыста тысяч кіламетраў у секунду?

— А як жа, ведаю, дачушка. Бачыш, якія цуды робіць у наш век тэхніка!

— Ну і гукаізаляцыя! Чуваць, як сусед нешта піша...

# НІЎКА

## НЕЗАМЕННЫ СЦЯПАН

Хоць на часткі
Разарвіся тут Сцяпану.
Прачынаецца заўжды ён
Раным-рана,

І спяшаецца, ідзе
Хутчэй ён з дому:
Шмат работы
У Сцяпана-агранома.

Шмат ён мае
У грамадзе даручэнняў,
(Не, яму не да палёў,
Не да насення).

Бо Сцяпана нагрузілі,
Як нікога,
Бо ў Сцяпана
Не адна, браткі, дарога.

Яму ўчора з гэарэну
Пазванілі:
— На паседжанне да нас...
Вы не забылі?

А пасля? Ага...
Пасля яшчэ павінна
Засядаць гадзіны з дзве
У нас дружына.

Каб жа ўсё гэта, дык не:
Сцяпан жа — лектар.
А яшчэ — рэдактар ён
Насценгазеты.

А яшчэ Сцяпана
Вылучылі сходам
У таварыства,
Што ахоўвае прыроду...

І па гэтай вось прычыне, —
Усім вядома —
Дзе яму да абавязкаў
Агранома!

*Віктар Шымук*

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

Адна пані напісала ў рэдакцыю ліст наступнага зместу:

«Мой сусед купіў магутны прыёмнік, і цяпер я не магу спакойна заснуць. Што мне рабіць? Як выказаць яму сваё абурэнне?»

Рэдакцыя адказала:

«Купіце перадатчык».



*Гадзіннікавы завод*

*Завод — аўтамат*



*Фабрыка цацак.*

*Птушкафабрыка*

## Талаваломка



Палічыце, колькі зайцаў на рысунку.

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара: Рычаг трэба падняць уверх.*

## МУЗЫКА

Рымскаму-Корсакаву сказалі, што адзін з яго вучняў завельмі адкрыта наследуе яму. Кампазітар адказаў:

— Калі кажуць пра музыку, што яна падобна на нешта, гэта яшчэ не бяда. Вось калі гэта музыка ні на што не падобна, тады ўжо справы кепскія.

Гумар з барадою

## ПАН І ПАСТУШОК

Ехаў аднойчы па дарозе пан. Сустрэўся яму пастушок. Пан і пытаецца:

— Як праехаць у суседняе імение?

— Сюдою, прама — бліжэй, але далей, а сюдою, направа, далей, але бліжэй, — адказаў хлапчук.

«Гм, дурны, пэўна», — падумаў пан і спытаў:

— А што твая матка робіць?

— З'едзены хлеб пячэ, — адказаў пастушок.

— Ты што, дурань, здзекуешся? — закрычаў пан.

— Чаму ж, паночку? Калі вы паедзеце прама, то будзеце ехаць доўга, бо дарога гразкая і коні наўрад ці выцягнуць вашу брычку. А калі паедзеце направа, то дабярэцеся вы хутчэй, бо дарога там лепшая, ядлоўцам вымашчана. А маці мая і праўда з'едзены хлеб пячэ. Напазычала яна шмат хлеба, дык вось і пячэ зараз, каб пазычку аддаць.

Сцебануў панскі вазніца коней, і прысаромлены пан знік з вачэй.

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Валі і Ніны Раманюк з Бельскага павета змяшчаем песню:

## GDY NADEJDZIE TAKI CZAS

Słowa: ZBIGNIEW STAWECKI

Muzyka: WANDA ŻUKOWSKA

1.

Jest dokoła nas za wiele ludzi
Gwar nie naszych spraw i myśli cudzych.
W neonach miasta nie widać gwiazd,
Nie wiąże miłość nas.
Być może jutro, dziś my mamy czas.

A gdy nadejdzie taki czas,
znajdziemy sobie milion gwiazd,
zmienimy miasto w kolorową łąkę
gdzie się barwi kwiat.
A gdy nadejdzie taki czas,
nie będzie ludzi wokół nas,
pójdziemy miastem za horyzont nocy,
gdy nadejdzie czas.

2.

Gdy któregoś dnia niechętne dłonie
Wprost powiedzą nam to chyba koniec.
Nie miejmy żalu do tamtych nas
Nie psujmy myślą zła
Tak ładnie było, więc pamiętaj to.

A gdy nadejdzie taki czas
poszukam sobie innych gwiazd
ty znajdziesz nowe łączki kolorowe
gdzie się barwi kwiat.
A gdy nadejdzie taki czas
będziemy kochać jeszcze raz
i tylko czasem będzie może szkoda,
że już nie ma nas.



## ІНШАЗЕМНАЯ МОВА

Гэта было ў часе перапісу насельніцтва. У адной жанчыны перапісчык спытаў, ці валодае яе муж якою-небудзь іншаземнай мовай?

— Мабыць, валодае, — адказала яна, — бо як толькі прыйдзе дамоў п'яны, дык так гаворыць, што ні я, ні дзеці не разумеем, што гэта за мова.

## ШТО ДЗІЎНАГА

— Разумееш, учора я быў з жонкаю ў кіно, а з другога боку каля мяне села вельмі прыгожая дзяўчына...

— Ну і што тут дзіўнага? Вось я аднойчы прыйшоў у кіно з адною вельмі прыгожай дзяўчынаю, а з другога боку каля мяне села мая жонка...



# Курёзы

## БУДУЧАЕ — ЗА МАКСІ

Французская актрыса Катрын Дэнёс заявіла, што будучае за «максі», таму што «з тым мізэрным шматком тканіны, што прыкрывае цела паміж плячамі і таліяй, ніякай новай моды ўжо не прыдумаеш».

## МЕРЫ БЯСПЕКІ

У паўднёваафрыканскім нацыянальным парку да некаторых дрэў прыстаўлены высокія лесвіцы з надпісам на англійскай мове: «Калі на вас нечакана накінецца насарог, узбірайцеся ўгору на два з паловай метра, а калі наляціць слон, рэкамендуемая вышыня — чатыры з паловай метра».

## ЦЯЖКАЯ ДОЛЯ

Футбольны клуб «Орландскія пантэры» навечна выкрасліў са сваіх спісаў Патрыцыю Палінкас — адзіную ў ЗША футбалістку — прафесіянала, за тое, што яна перастала хадзіць на трэніроўкі. «А як мне на іх хадзіць, — апраўдвалася яна, — калі амаль увесь вольны час я даю інтэрв'ю газетам, радыё і тэлебачанню».

## КЛОПАТЫ ІТАЛЬЯНСКАЙ ФЕМІДЫ

Рымскі палац юстыцыі знаходзіцца ў цяжкім стане. З усіх залаў толькі ў адной можна праводзіць судовыя пасяджэнні. Астатнія патрабуюць тэрміновага капітальнага рамонту. Занепакоены служыцелі Феміды і ў італьянскай правінцыі: з 1000 судовых памяшканняў усяго 250 знаходзяцца ў больш ці менш прыгодным стане. І даводзіцца суддзям шукаць прытулку ў былых манастырах, цэрквах. У італьянскага правасуддзя ёсць зручная прычына для адцягвання рашэння непажаданых яму спраў: некаторыя працоўцы працягваюцца тут па некалькі гадоў, а кожная суддзю прыпадае ў сярэднім па 800 незакончаных спраў.



*Часцей за ўсё вышукваюць блох тыя, хто іх разводзіць.*